# Алесь Вечар

# Зварот да слова



ВЕРШЫ

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1977

## ЗВАРОТ ДА СЛОВА

Дзіўлюся табе, чалавечае слова!
Дзіўлюся вялікаму мноству твайму.
Ты можаш быць моцным,
Ты можаш быць кволым,
І словам, якім пачынаюць вайну.
Ёсць словы-тварцы,
Ёсць словы-салдаты,
І словы без сэнсу — адна балбатня.
На свеце існуе слоў вельмі багата.
Але найжахлівей іх слова «вайна».
Скажы,
Ці затым чалавеку быў дадзен
Магутнага слова каштоўнейшы дар,
Каб сам ён, паддаўшыся слоўнай
прынадзе,
На роднай планеце раздзьмухваў пажар.
Дык хай жа і ў розум не траціцца
вера!
За гэта змагаўся нязломны В'етнам,
За чалавечую веліч над зверам
І слова таксама змагалася там.
Яно палымнела на тварах плакатаў,
Яно вырывалася крыкам з грудзей,
Яно ганьбавала злачынцаў і катаў,
Яно падымала мільёны людзей.
Я слаўлю цябе, ваяўнічае слова!
За праўду і мір ты ваюеш даўно.
Ты можаш быць сказана рознаю
мовай,
Аднак жа ты значыш усюды адно.

Скажы мне,
З чаго твая сіла ўзнікае,
Адкуль цябе жывяць крыніцы падзей?
Быць можа, прыйшла ўжо
эпоха такая
Што слова ідзе ў авангардзе падзей.

Сабраць, як бы войска, вялікія словы,
Паставіць сцяною насупраць вайны,
Каб сілай сваёю жывыя асновы
Для дружбы народаў стваралі яны.

*1973*

## КАМЕНТАРЫЙ ДА АРТЫКУЛА

Энцыклапедыя!
Гэта не жарт —
Мець сцежку да нашых патомкаў.
А як перадаць ім душы нашай жар
І сэрца кіпучую звонкасць?
Разбегліся думкі ў маёй галаве,
Іду я па ржэўніку босы,
Мне месца знайшлося пад літарай «В»
У адным з тых тамоў шматгалосых.
Радзіўся і жыў я тады і тады...
Уся праўда пра нашага брата!
Пісаў нават вершы, як быў малады.
Ды толькі апошняя дата
Яшчэ не з'явілася ў дробным радку,
Хоць знаўся я з днямі ліхімі,
Амаль невядома, чаму і адкуль
З мяне вырастаў біяхімік.
Таварыш!
Пакуль я па свеце хаджу,
Пакуль не ўпакаваны ў тару,
Паслухай, будзь ласкаў, што я раскажу,—
Мой сам пра сябе каментарый.
Разгорне патомак вось гэтакі том,
Быць можа, у энным выданні
І стане гартаць яго ліст за лістом,
Ісці між падзей і паданняў.
Спакойна старонку маю праміне,
Не трэба нікога такога.
Крычу праз гады я: «Была і ў мяне
Свая навуковая школа».
Я змалку прывык, каб у кіпені дзён
Высока цанілася праца.
Таму, хто нішчымнаму хлебу жадзён,
Няма больш на што апірацца.
У навуку за рукі мяне не вялі,

Ішоў не па гладкай дарозе.
Я знаю, як ныюць мазгоў мазалі
І стыне душа на марозе.
Навука мая прастаяла ў чарзе
Нямала каштоўнага часу.
Змаўчу я, калі пра мяне хто вярзе:
«Вучоны не першага класа».
Навука, па-мойму, падобна жыццю.
Існуе яна не для славы,
Якая звычайна прыходзіць к канцу,—
Існуе для лепшае справы.
Існуе яна, каб на светлай зямлі
Жылі па-разумнаму людзі,
Каб шчасце планеты яны не змялі
У войнах, гультайстве і брудзе.
Патомкі!
У вас ужо можа няма
Падзелу на школы і школкі,
Навука сабе вызначае сама,
Што трэба даследваць і колькі.
У вас ужо кожны жывы чалавек
Вышэйшую мае асвету.
Я веру, што ён у сваёй галаве
Трымае не толькі анкеты.
Мне вас, непрыйшоўшых,
не прыйдзецца стрэць,
Мой след зараўнуецца скора,
Але, спадзяюся, не будзе старэць
Мая навуковая школа.

*1972*

## ДЫЯЛОГ З КАМП'ЮТЭРАМ АБ ЛЮБВІ

Я марнею ізноў ад бяссонніцы.
Сам не знаю, адкуль узялася яна.
Ці то памяць мая за нечым гоніцца,
А таго, што ёй трэба, не можа дагнаць,
Ці то сэрца маё сярдуе нечага
І не можа сябе адчуваць маладым,
Хоць былыя трывогі жыцця чалавечага
Патанулі ў тумане,
Мінулі, як дым.
Прызнаюся, сябры,
Што я моцна усхвалёваны;
Мне здаровага сну ні на грош няма.
Нават лекамі вельмі хвалёнымі
Не дае мне яго медыцына сама.
Таму я аддаюся на волю фантазіі,
Хай яна аб'ядная прастору і час,
Каб мой розум і думы мае не лазілі
Па балоце тугі,
Не шукалі ўрача.
Так аднойчы ўначы я сустрэўся
з камп'ютэрам.
Быў праправўнукам тых,
Што яшчэ не былі,
І сказаў ён:
«Прафесар, давай пагутарым
Мы аб тым,
Што, магчыма, і нам баліць.
Сон, як бачыш, і мне не дадзены,
Час для нас як узлётная паласа.
Мною столькі адказаў было ўжо
складзена,
Што паставіць пытанні
Хацеў бы я сам».
«Калі ласка,—
Кажу я спакойна і ветліва,—

Мне цікава паслухаць пытанні твае.
Ты — прышэлец ад Заўтра,
Вялікага светлага,
Дык скажы, ну чаго там табе нестае».
«Не хапае мне, доктар,
Крыху інфармацыі
На пытанне аб тым,
Што такое любоў.
Аб любві столькі кніг
Мной было перамацана,
Што аб гэтым хачу
Гаварыць я з табой».
«Мой дапытлівы госць!
Каб я меў многа практыкі,
То сумеў бы зрабіць адпаведны даклад,
Але ў кнігах таксама не холад Арктыкі,
Столькі моцных эмоцый,
Святла і цяпла.
Кніжны фонд, як вядома,—
Праграма для памяці,
Толькі як яго ўціснуць у логіку схем?
У алмазным мазгу электронныя замеці
Не пабольшаць, відаць, інтэлект ЭВМ».
«Паважаны,
Няўжо майму чыстаму розуму
Немагчыма прыроду кахання пазнаць?
Перад ім слупянею сам,
Як заваражаны,
Але ў ім не знаходжу выразных адзнак.
Аб любві, знаеш сам,
Столькі кніг наварочана,
Столькі фільмаў паказана
У розных кіно,
Што не толькі мая галава замарочана...
Што ж такое каханне?
Якое яно?»
«О мой дружа,
Пытанні далёка не простыя

Задаваць ты, як бачу, таксама мастак.
Перад імі спыніўся нібыта на ростанях,
Бо іх можна тлумачыць і гэтак і так.
Правільнейшы адказ дзе пазычу я?
Калі розум паказвае праўду не ўсю,
Артылерыю сэрца заву на пазіцыю —
Хай маланкі пачуццяў пазнанне нясуць.
Ты паслухай,
Жывое не можа без догляду,
Самай рознай на свеце
Бывае любоў.
Узнікае адна
Нават з першага погляду,
А другая гадуе малых галубоў.
Без любві
Можа ўсе бы істоты пагінулі,
Можа ўзнікла яна
Як адзнака жыцця,
Калі першыя клеткі
Ад задачак па хіміі
Перайшлі да рашэння задач развіцця.
Нам бы ведаць,
Як тыя задачы рашаліся
У мінулыя эры на нашай Зямлі!
Можа быць, і тады ўжо дзве клеткі
злучаліся,
Тых задач паасобку рашыць не маглі.
Таямніца дзвюх клетак,
Амаль аднолькавых,
Але ў нечым і розных яшчэ між сабой,
Так схавалася дзесьці
Ў малекулах столкавых,
Што яе не знаходзім і мы з табой.
У малекул — вялікая звышаўтаматыка,
Пара клетак жыццё да бяссмерця вяла...»
«Пачакайце,
Дык гэта ж не тая тэматыка
І не тая любоў,

Аб якой пахвала.
У прыроды было многа часу для вопыту,
І яна ад праблем не губляла ключы.
Ты, магчыма, знясілеў ад лішняга
клопату,
Мала што магло здацца жывому ўначы.
Дзе ж маланкі пачуццяў,
І ўсякая этыка,
І любоў,
Калі сэрца важней галавы?»
«О камп'ютэр!
Лічылі б цябе тэарэтыкам,
Калі б свет аўтаматыкі
Быў жывы...»

*1973*

## ЯШЧЭ КРЫХУ АБ ЛЮБВІ

Аднойчы жанчыны касмічнае эры
Зусім нечакана прыйшлі да мяне.
Прыйшлі, як дамоў,
не пастукаўшы ў дзверы,
Прыйшлі, як прыходзілі музы даўней.
Яны не глядзелі, што быў я заняты,
Што часу ў мяне для размовы няма,—
Чароўна быў клопат з душы маёй зняты,
І страціла важнасць
работа сама.
І здаўся прыгожым мне вобраз жанчыны:
Усмешка на вуснах і шчасце ў вачах.
— Скажы мне,— пытае,—
з якое прычыны
Пачаў ты з машынай любоў вывучаць?
На тэму кахання шукаць дыялога
З камп'ютэрам нейкім —
пацеха адна.
Шукаў бы жанчыну сабе на падмогу,
І выпілі б чашу пазнання да дна...—
Маўчу я, як рыба,
што трапіла ў нерат,
Нялёгка мне даць адпаведны адказ.
Другая красуня тут выйшла наперад.
Вялікая радасць такую спаткаць.
— Паслухай,—
сказала, бліснуўшы вачыма,—
Што ведаеш ты аб сапраўднай любві?
Гавораць, што ты падабаўся жанчынам
За тое, што з імі душой не крывіў.
Жанчыны, жанчыны...
Ну што я скажу ім?
Куды я ў адказах сваіх паплыву?
Аднак жа,
Калі прад табой прыгажуні,

Трымайся, мужчына,
Вышэй галаву!
— Сяброўкі,—
Кажу я,—
Магутнасць прыроды
Змагла бессмяротнасць жывому знайсці.
Для гэтага цуду
два розныя роды
Павінны знаходзіць адзінства ў жыцці,
Прырода стварыла вялікія вабы,
Каб клетка з другою
злілася ў свой час,
Прывабу для кветкі,
прывабу для жабы
І нейкія, можа, прывабы для нас.
Паверце,
я ў чары даўно ўжо не веру,
Даўно ўжо над імі смяяцца пачаў,
Але, як відаць,
і ў касмічную эру
Жыве біялогія,
поўная чар.
Дзівосна ў прыродзе
прыдумана гэта,
Што цесна бывае
любві ў галаве.
Любоў, можа, сродак,
а можа, і мэта.
Няхай разбіраецца ў тым чалавек.
Я сам у любві разбіраўся не шпарка,
Не раз маё сэрца губляла спакой.
У кожнага з нас
ёсць куток заапарка,
Дзе можа быць заяц,
дзе можа быць конь.
Яно і ў прыродзе бывае,
што нечым
Запоўніць пустэчу пластмасавых лбоў.

Любоў тым важней
　　　　　　　　у жыцці чалавечым,
Чым больш чалавечнасці мае любоў.

Апошнія словы майго маналога
Гучалі самотна ў пакоі пустым.
Хвіліны натхнення! Ні мала ні многа
Былі сёння музы са мною на ты.

*1974*

## ЮБІЛЕЙНАЕ СЛОВА

*І. Д. Юркевічу*

Беларусь — наша песня!
Бягуць яе светлыя рэкі,
І глядзіцца яна ў іх
і бачыць сваю прыгажосць
У магутным Дняпры, што быў шляхам
«з варагаў у грэкі»
У шматлікіх прытоках, якія цякуць да яго.
Толькі Нёман чагосьці
з Дняпром не паладзіў.
Можа, зрухі грунтоў іх падзялілі даўно,
І раз'юшаны Нёман знайшоў сабе іншыя ляды
Ды падаўся на захад
услед за красуняй Дзвіной.
Як вялікія рэкі ўзнікаюць з малых ручаінак,
Што знаходзяць свой шлях
пад аховаю нашых лясоў,
Так са звестак пра свет
розных дрэў, хмызнякоў і травінак
Узнікае батаніка — стрэмка ліхіх галасоў.
Мы нярэдка мяркуем на базе няясных прагнозаў
Аб надвор'і і працы, навуцы і шчасці ў жыцці,
А залежым, магчыма, ад біягеацэнозаў,
Як залежаў Кашчэй у качкавым бітым яйцы.
Так жывая вада ад дажджоў і снягоў Беларусі
Трэба нам і раслінам на нашых палях і лясах.
Час бяжыць, як вада,
Юбілей успаміны варушыць,
А ўспамінаў тым болей,
Чым больш сівізны ў валасах.

*1972*

## НАША СТАГОДДЗЕ

*Міхасю Ганчарыку*

Ці даўно было ўсё гэта,
ці было яно нядаўна,
Век дваццаты пачынаўся нецярплівою хадой.
Люд працоўны падымаўся
на рашучае змаганне
З галадоўляй,
цемрашальствам
і ваеннаю бядой.
Быў наперадзе рабочы.
Гэта ён стварае рэчы
Для адзежы і для ежы,
для жыцця і для вайны.
Рэчы выткалі аснову
для імкненняў чалавечых,
А імкненні...
Як вядома, вельмі розныя яны.
Чалавек узняўся ў высі,
Чалавек асіліў далі,
Таямніц светабудовы
дакрануўся чалавек.
Дык ці можна,
Каб на свеце людзі, дзеці галадалі,
Каб аб тых, хто ў тым павінен,
быў туман у галаве.
Светлы шлях да камунізма
паказаў вялікі Ленін.
Паказаў ён чалавецтву,
Што рабіць, каб быць людзьмі.
Навальніца рэвалюцый —
гэта справа пакалення,
Што ішло ў сваім стагоддзі
праз туманы
і дымы.

Прыйдзе час,
дымы развее па-над светам буры подых,
Будзе ўсюды праўда мая
і падману лістапад.
Хто не здольны да ахвяры,
той не здольны і на подзвіг,
Хто нічога не стварае —
сам нясе свой занятад.

*1969*

## ХАТЫНЬ

Ты, Хатынь, была сястрою
усім шчаслівым нашым вёскам,
Расцвітала ў вольнай працы
на прагаліне лясной.
Не магла ты пагадзіцца
ні з якім прыгонным лёсам,
Не магла ты развітацца
са шчасліваю вясной.
А фашысцкія вар'яты
спапялілі тваё хаты,
І людзей тваіх спалілі,
вёска ціхая Хатынь!
Замаўчалі твае дзеці,
змоўклі хлопцы і дзяўчаты,
Сціхла ўсё, і нават попел
на тваіх дварах астыў.
Многа вёсак падзялілі
долю горкую Хатыні:
Давялося ім загінуць,
як салдатам на вайне.
Не загінуў дух мяцежны,
ён заўсёды разам з тымі,
Хто жывы і хто за праўду
зноў змагаецца ўдвайне.
Я ішоў шляхамі смутку,
я ішоў дарогай новай,
Каб наведацца ў мясціны,
дзе калісь Хатынь была,
І на могілках між кветак
палажыў лісток кляновы,
Каб ён доўга, быццам сэрца,
чырванеўся і палаў.

*1969*

## ВЯЛІКІ САЮЗ

Калі б я ў ракеце імчаўся ў сусвеце,
Глядзеў бы з арбіты на нашу Зямлю,
То, пэўна, вачэй маіх сонечны вецер
Шукаў бы там дзесьці старонку маю.
Магчыма, здалёку яна, як на карце,
Нібыта кляновы лісточак відна.
Лісток пасярэдзіне трохі пукацей —
Уверсе на захад імкнецца Дзвіна.
Унізе лістка мнагаводная Прыпяць,
Як срэбная жылка, кіруе на ўсход...
Душа акунаецца ў лірыку скрыпак,
І сэрца склікае пачуцці на сход.
Калі б я ў ракеце імчаўся ў сусвеце,
Глядзеў бы здалёку на нашу Зямлю,
То, пэўна, прыкмеціў бы я на планеце
Перш-наперш не толькі старонку маю.
Паўстаў бы тады прад маімі вачыма
Савецкіх рэспублік Вялікі Саюз,
І кожная з іх — майго сэрца часціна,
І кожную з іх я люблю, як сваю.
Я знаю, што ў тыя касмічныя далі
Найлепшых сыноў пасылае народ,
Што воля і розум яго загадалі,
Каб мора Дажджоў вывучаў лунаход.
І вось аўтамат то ідзе, то марудзіць
На грунце, якога ніхто не крануў.
Пабачыць бы мне, як шырокія грудзі
Ракетам сваім аддае Байканур.
Але толькі ў марах сачу я за імі
І веру, што з імі да шчасця ідзём.
Зліліся з тваім, Рэвалюцыя, імем
Навука і тэхніка будучых дзён.

*1970*

## ПАМЯЦІ ВЕРЫ ХАРУЖАЙ

Сто клёнікаў гадуе новы сад.
Сто тонкіх дрэў запоўнілі алею.
Я іх лічыў,
Я быў ім вельмі рад —
За клёнікаў усёй душой балею.
Я ўспамінаю маладосць сваю.
Бываў і я тады ў адной дуброве,
Кляноў з дубамі векавы саюз
Там быў праявай сілы і здароўя.
Але прыйшла крывавая вайна,
Дуброву тую не мінула гора,
Была дашчэнту знішчана яна —
На прыгажосць не спагадае вораг.
Лясы затое помсцілі яму,
Давалі схову нашым партызанам.
Бывае час, калі жыццю ўсяму
Прыходзіцца вытрымліваць экзамен.
Сярод адважных і яна была
І як магла змагалася са зверам.
Ты імені яе не забывай,
Яе ў народзе называлі Вера.
Яна любіла полымя кляноў,
Якое рдзее ў восеньскую просінь.
У памяць ёй дзявочае звяно
Кляны садзіла ў леташнюю восень.
Мінуць гады, і волаты-кляны
Высока ўзнімуць смелыя галовы,
Глыбокі цень дадуць зямлі яны,
А добрым людзям слодыч прахалоды.
Расціце, клёнікі!..
І дзякуй тым,
Хто пасадзіў вас добра і стаpанна.
Лавіце сонца промень залаты!
Прыйду да вас ізноў я заўтра рана.

*1973*

## ПРАДМОВА ДА МЕМУАРАЎ

Я сапраўды дваццатаму веку
амаль што равеснік.
Разам з ім я хадзіў
па няпростых дарогах сваіх,
Разам з ім я спяваў
рэвалюцыі звонкія песні,
Нават вершы пісаць
пачыналі таксама ўдваіх.
Так мой лёс і мой час
узаемна не мелі спакою.
Дзесь на вёсцы ў сялянкі ўдавы
падрастаў пастушок.
Ён пайшоў з парасятамі ў поле
раней, чым у школу,
Ад дажджу пачапіўшы на плечы
звычайны мяшок.
Там у полі другія
такія ж прыходзілі дзеці
І збіралася часам
малых пастушкоў чарада,
Як шпакі каля статку,
пакуль не разбегліся дзесьці.
Некаторыя з іх
сустракаліся мне ў гарадах.
Засцілае мінулае дымам
уражанні нашы,
І замоўклі даўно ўжо
дзіцячых пакут авадні.
Столькі часу прайшло з той пары,
калі быў я на пашы
І набрыньваў самотай у доўгія летнія дні,
Але я і дагэтуль
так ясна яшчэ памятаю
Зацямнёнае сонца
якраз перад самай вайной,

Пасярэдзіне дня
нават ластаўкі ўжо не лятала
І ўцякалі цяляты
ад пуг пастушковых дамоў.
Я сягоння наўмысля
ў маленства сваё аглянуўся,
Заімглілі гады
на адзін і той самы капыл.
Толькі год,
калі месяц пад сонечным бляскам
сагнуўся,
Для мяне на здарэнні
якраз быў не вельмі скупы.
Пачалася вучоба
з вандроўкай ад хаты да хаты
І ад вучня да вучня
для ўсіх па няўхільнай чарзе.
Пазнавалі ў дзяцінстве,
хто бедны
і хто больш багаты,
Адбываючы кары ў закутку
стаяннямі пры качарзе.
Я не помню цяпер,
калі першая радасць пазнання
Мне запоўніла сэрца
і ўперад мяне павяла.
Я не помню таксама,
каб нейкая добрая няня
Наглядала за мной
і шкарпэткі тым часам пляла,
Але помню, што ў той
самай першай вандруючай школе
За аснову вучэння
нам руская мова была,
Што навука Расіі
хадзіла са мною на поле,
Часам нават у марах
далёка ў сусвеце плыла.

Ды не толькі ў тых марах
яна для мяне існавала.
Брат мой самы старэйшы
тады ўжо вучыўся ў Маскве,
І прыезды студэнта
глыбока мяне хвалявалі,
Адчыняліся дзверы
ў таемны і заўтрашні свет.
Нас сямёра ў сям'і
засталося калісьці без бацькі,
А ўзысці на ўзвышша
ўдалося ўсяго аднаму,
Хоць нікога з сям'і
не прываблівалў гоман кабацкі
І навуку ніхто з семярых
не лічыў за ману.
Мову кніг я любіў
і народную мову у маці,
Роднай мовай назвалі
ў далейшым яе нездарма,
Хоць адзін мой знаёмы
нядаўна старанна тлумачыў,
Што ад матчынай мовы
ніякай карысці няма.
Чалавечая мова
заўсёды даецца з калыскі.
Але голас асобы
прырода дала салаўю,
І яна не знаходзіла, мабыць,
ніякай карысці,
Каб і птушкі ўсе пелі
аднолькава песню сваю.
І яшчэ памятаю —
аднойчы пасля выкрутасаў
Конь стаенны спыніўся
якраз перад нашым дваром.
На кані тым яздок
у высокай і чорнай папасе,

А на ёй красавалася цэшка
з двуглавым арлом.
Той яздок прачытаў
нешта брату майму на паперы.
Ад тых слоў мяне маці
чамусьці за руку ўзяла,
І пайшоў мой маяк
у студэнцкай тужурцы наперад,
А за ім верхавы
чорным ценем вялікага зла.
Брат адсутнічаў суткі,
вярнуўся не вельмі вясёлы,
Рыхтаваўся ў дарогу,
казаў, што вучыцца пара.
Перад самым ад'ездам
у торбу ён кнігі засоўваў
І аддаў адну мне —
гэта быў экземпляр «Кабзара».
Украінская мова!
Сустрэча з цікавым і новым.
Я на гэтакай мове
нічога яшчэ не чытаў.
Мне не лёгка даваліся ў ёй
незнаёмыя словы,
Супраць зместу і вобразаў
сэрца не мела шчыта.
Шмат разоў я натхнёна
таго «Кабзара» перачытваў,
Вымаўляў верагодна
я правільна словы не ўсе.
Мне здавалася толькі,
што гэта і мной пражыта,
Часам так захапляўся,
што коні пасліся ў аўсе.
Так тры светлых крыніцы
зышліся ў жыццёвым патоку.
Слова роднае маці —
найпершая з гэтых крыніц.

Мова руская ў школе —
вялікай навукі вытокі
І паэзія праўды,
якая не мае граніц.
Пастухі мелі рангі,
зрабіўся і я каняводам.
Значыць можна на працу
упоруч ці ўслед за канём.
Век дваццаты і я.
Год мінаўся за годам.
Век дваццаты з маленства
любіў забаўляцца з агнём —
Сігануў у вайну...
І, здаецца, надзеі ні грама,
Што вясковага хлопца
звычайная цемра міне.
Нечакана аднойчы
прыйшла аж з Масквы тэлеграма:
«Аддавайце ў гімназію»,—
гаварылася ў ёй пра мяне.
Разам з векам сваім
я ішоў і прыйшоў у юнацтва.
Хаця, праўду сказаць,
быў я ўсё ж за яго маладзей,
Гімназісту было, добра помню,
ўсяго адзінаццаць,
Калі ў першай вайне
два гады ўжо знішчалі людзей.

*1974*

# ІВАНЬ
## (Раздзел з мемуараў)

I

Дружа мой,
калі духу хапіла ў мяне на прадмову,
Можа, варта далей
мне пісаць мемуары свае.
У жыцці і ў тэатрах
вядуць аб мінулым размову,
А маўклівае Заўтра
даўно ўжо чакае ў фае.
Таямнічае Заўтра,
надзей чалавечых крыніца,
Па няходжаных сцежках
адвечна наперад ідзе.
А сучаснае крочыць за ім
і не можа спыніцца,
І ўчарашнім заўсёды
становіцца сённяшні дзень.
Тры крылатых кані
час імчаць у сусветнай прасторы
Зорным шляхам сваім,
дзе няма ні слядоў, ні калей,
Тры крылатых кані,
іх імя: Сёння, Заўтра і Ўчора,
Што было і што ёсць
і што, можа быць, будзе далей.
Успаміны ізноў...
Дык прадоўжым свае вандраванні
Па дваццатаму веку.
Ізноў я нібыта малы
І прыходжу аднойчы
ў старую царкву на Івані,
Дззе няслo крыху тхлінай
і пахам замежнай смалы.

Я прыходжу ў дзень будны,
не ходзяць у будні на споведзь.
Ну якія ў малога
быць могуць сапраўды грахі!
Каб пакрочыць далей,
дзе вучэння няроўнае поле,
Я з дарогі звярнуў
і зайшоў у царкоўны архіў.
Людзі кажуць, што ў ім
весткі ёсць аб маім існаванні.
Калі я нарадзіўся,
там запісы нехта зрабіў.
Проста кажучы,
метрыку трэба мне ўзяць на Іване.
Мая маці сказала:
«На метрыку ты зарабіў
Пастухом яшчэ летась.
Ідзі, калі маеш надзею,
Што ты некалі зможаш
іначай свой хлеб зарабляць».
Паглядзела, ці чыста адзеты,
нібыта ў нядзелю,
І дала мне на метрыку тую
арластага паўрубля.
Я прыйшоў да папа́ і сказаў,
перамогшы нялоўкасць:
«Я прашу вас мне метрыку выдаць,
айцец Аляксандр!»
А айцец паглядзеў, што я босы,
і убок паказаў мне алоўкам:
«Да дзяка ты ідзі,
няхай выпіс напіша ён сам».
Я дзяка таго ведаў.
Заўсёды ў часе прычасця
Ён стаяў каля чашы,
«Как імя» няспынна пытаў.
З тае чашы і я, памятаю,
панюшачку шчасця

Разам з дробкаю хлеба
і кроплян віна паспытаў.
Я прыйшоў да дзяка
і яму паўтарыў свае просьбы.
Ён спытаў у мяне:
«Як завуць, з якой вёскі і чый?
Каб не боская воля,
то доўга без метрыкі рос бы,
А заплаціш адразу
ці мацеры ў доўг залічыць?»
Я з кішэні дастаў паўрубля
і на стол палажыў яго моўчкі.
Можа, казачны цар
аддаваў так паўцарства свайго.
А дзячок паглядзеў,
адамкнуў у шуфлядзе замочкі
І дастаў з яе кнігу і бланк,
ну адзін усяго.
З тае кнігі у бланк
дзяк спісаў усе звесткі ў хвіліну
І аддаў яго мне.
Дык бывай, рэлігійная твань!
Успамін той далёкі
ніколькі не згас і не згінуў.
Ой ты, Іва, Іванка...
і адкуль тая назва Івань?

II

Вельмі многа Іванаў
было ў тым царкоўным прыходзе.
Не адзін родны брат мой,
дарэчы, якраз быў Іван,
Сам дзячок быў Іван.
Я хачу расказаць аб прыгодзе,
Пра якую паслухаць,
магчыма, не лішне і вам.

Пэўна стала вядома
тады некаторым сялянам,
Што сярод іх Іван
наперадзе наскіх імён,
Каб адрозніць хлапцоў,
называлі іх Янкам і Янам,
Але гэта ўсё той жа Іван,
не Даніла і не Сямён.
Памятаю той час,
калі дзяк вартаваў каля чашы,
І было прычашчэнне,
і млела жывая чарга,
І аднойчы яна хлапчукам
спадабалася нашым,
Быццам ім у чарзе
па кавалку дадуць пірага.
А прыгода, як байка,
сама пачалася з Івана.
На пытанне: «Как імя»
сказаў як і трэба: «Іван».
А за ім і наступныя
вельмі неспадзявана
Кожны хлопец Іванам
выразна сябе называў.
Дзяк Іван не сцярпеў,
што існуе ў яго столькі цёзкаў.
«Згаварыліся, грэшнікі,
пэўна, вы самі з сабой!»
Але поп не пакінуў даваць
хлапчукам нашай вёскі
Сімвал шчасця адных,
для другіх жа — пакуты і боль.
У малой той падзеі
я сэнсу дагэтуль не ўцяміў.
Па загаду я верыў,
з-за беднасці нават пасціў.
Я хацеў прычашчацца і сам
разам з тымі хлапцамі,

Толькі
брат мой Іван
мяне ў тую чаргу не пусціў.

III

Дружа мой, каб ты знаў,
як тады ўся душа мая пела,
Я трымаў у руках
ад жар-птушкі цудоўнай пяро.
Вось цяпер я магу
пастпаць у гімназію смела,
Без важнецкай паперы
не пусцяць мяне на парог.
Неадкладна пара мне
збірацца ізноў у дарогу.
Дык чаго ж я стаю
на шырокім царкоўным двары?
Дайце музыку мне,
хай адзначыць яна перамогу
І канец непазбежны
дзіцячай шчаслівай пары.
Адгукнуўся аркестр,
адазваўся ён рытмікай марша.
У той бок мімаволі спяшаюся,
нават пабег.
Ведаў я, што ў маёнтку Івані
салдаты не нашы,
І візіт свой да іх
я ахвотна дазволіў сабе.
Вось яны хоць не нашы,
а ўсё ж і браты і славяне.
Мала што мне вядома
было ў пару тую пра іх.
Гаварыў ім прамову сваю
чалавек у сутане.
Хоч не хоч, будзеш слухаць,
калі ты салдат і ў страі.

Я таксама тады
ксяндза іхняга трохі паслухаў —
У той дзень на сустрэчу
з папамі мне вельмі вязло.
Ды нічога такога
маё пастуховае вуха
Ад прамовы ксяндза
у праграму сваю не ўзяло.
Музыканты крануліся з месца
і выйшлі наперад,
Але трубы маўчалі,
і смутак над імі кружыў.
Я памацаў над сэрцам —
ці ёсць яшчэ тая папера.
І пакрочыў з аркестрам
чэхаславацкіх дружын.
А дружына пайшла на шашу,
што ад Слуцка да Брэста,
Павярнула на захад,
свае падраўняла рады.
Залунала ў паветры
іграя духавога аркестра.
Лепшай музыкі пэўна
не чуў я у тыя гады.
Слухаў я і любіў
задумёную музыку песні,
Нават музыка танца
мяне захапляла ўсяго,
Але музыка марша
здавалася цудам нябесным,
Яна звала на подзвіг,
ісці і ў ваду і ў агонь.
І пад гукі яе
непрыкметна міналіся вёрсты
І старыя прысады
даўно мне знаёмых бяроз,
Што спляліся галлём,
як далонямі родныя сёстры.

Але музыка змоўкла
на тым скрыжаванні дарог,
Дзе павінен і я
з вандраваннем сваім развітацца
І пакрочыць паціху
не вельмі ахвотна дамоў.
А пакуль што
вялікая сіла мастацтва
Закранула душу
як адзін з невядомых тамоў.
Музыканты звярнулі з шашы
і спыніліся збоку,
Іх шарэнгі застылі
ў гатоўнасці сумна-нямой,
Толькі тупат упарты
салдацкіх аднолькавых ботаў
Распаўзаўся па бруку
і ў высі падняцца не мог.
Вельмі сумна было
ў развітальныя тыя хвіліны,
Музыканты igралі,
дружына ішла на вайну.
Па-над імі бярозы
свае нахілялі галіны.
Гук апошні замоўк і
апошні салдат нас мінуў.
Пастаялі крыху трубачы
і назад пабрылі па дарозе.
Я застаўся адзін,
захацеў адпачыць і прысеў
На абочыне той,
што давала прытулак бярозе.
Узнікалі пытанні
адно за другім пакрысе.
Вось пайшлі і яны,
бач, «за веру цара і айчыну».
І дзве веры адразу
хіба падыходзяць каму?

Як жа чэхі ідуць за цара?
Можа іншая гоніць прычына,
Можа, лепшы ў цара,
чым у кайзера, цяжкі хамут?
На мінулае часта гатовы
глядзець мы звысоку.
Варта глянуць, адкуль
пачынаўся памылак клубок.
Ад Івані
да самага Уладзівастоку
Ішлі тыя ж салдаты,
ды толькі зусім не ў той бок.
Усё гэта было не тады,
а ўжо некалі потым.
А пакуль што хлапчук
неахвотна пакрочыў дамоў.
Хто раскажа яму,
што крывёю і потам
Людзі плацяць падатак
вайне ўжо даўно.

*1975*

## З ПІСЕМ

### АД СЯСТРЫ

Я рада,
 што ізноў магу пісаць пісьмо
І што яно мо не апошнім будзе.
Жыццё спяшалася,
 і ты папросту мог
Забыць мяне ў сваім жыццёвым гудзе.
Мне сэрца не сагрэць
 каля твайго кастра.
Ты ж ведаеш, я так даўно хварэю.
Хачу сказаць табе, як большая сястра,
Ты мог бы не дажыць да юбілею.
Ты нарадзіўся ў цяжкую вясну,
Але цяжэй вясны
 быў месяц жнівень.
Тады наш бацька назаўжды заснуў.
Было жніво, і ўсе былі на ніве.
Бядачае знаёмства з брушняком,
Два тыдні бацьку
 бачыла ў пакутах,
Сцірала пот з ілба
 старэнькім ручніком
І ціха плакала,
 схаваўшыся ў закутак.
Святло надзей
 ён забіраў з сабой.
А маці пакідаў усе свае пазыкі.
Не давялося мне
 хадзіць у школу больш,
У дзесяць год лічылася вялікай.
А ў хаце ж — трое меншых за мяне,
А ў хаце нашай — малака ні кроплі.
Тут хочаш баіць байку або не,
А хоць бы жменю тоўчанай каноплі.

Ґрудным, я знаю, не даюць нідзе
Жаваны хлеб,
а ў ім цукровы мелес,
А як ты выжыў пры такой ядзе,
Магчыма, ты і сам не разумееш.
Ты б мог...
і біяграфію тваю
Ніхто б ніколі не крануў рукамі
На схіле дзён
я праўды не таю —
Лажыўся мне на сэрца
цяжкі камень.
Але ж, відаць,
ты сам не пажадаў
Пайсці за бацькам у нябыт імкненняў,
Сваім цярпеннем
быццам спагадаў
І зняў з мяне
груз цяжкага камення.

## ДА СЯСТРЫ

Ты мне пісала, родная,
аб тым,
Як пачыналася жыцця майго аповесць.
Дзяцінства, знаю сам,
было не залатым,
Я шчыра да цябе іду на споведзь.
Прашу, не вер,
што я памерці мог
Яшчэ ў маленстве проста з галадухі.
З тае пары захоўвае мой мозг
І бульбы смак, і пахі саладухі.
Я паважаю простую яду.
Прывычкі нашы
могуць многа значыць.
Не толькі голад прадракаў бяду,
Не толькі ён быў сімвалам нястачы.

Ты помніш нудны шлях
праз паласу хлусні?
Я гінуў з голаду,
і быў то голад праўды.
Здавалася,
што праўду толькі сніў
І што паклёпам
не магу даць рады.
І я, здаецца, вось тады б і мог...
Але ж я не памёр
ад галадухі духу
Таму, магчыма,
што калісь даўно
Я існаваў на бульбе з саладухай.

*1975*

* * *

Тады, тады, калі, здалося,
Адзін застаўся я з бядой,
Як бусляня, якое ўвосень
Ляцець не можа з чарадой,
Ты падышла і стала ўпоруч,
Гатовая ў далёкі шлях.
Такую сілу і апору
Ты ў сэрцы любячым знайшла!
З тае пары з табою разам
Свае нягоды я мінаў,
Аднак жа ў вершах я ні разу
Цябе, мой друг, не ўспамінаў.
Хваліць цябе?
Дык ты не тая,
Якую можна прадаваць,
Жывая, часам не святая,
На шчасце мне — ты не ўдава.
Ужо, магчыма, недалёка
Мая апошняя вярста.
Хацеў бы я буслiны клёкат
Улетку чуць гадоў да ста.
Існуе, бач, такая мода:
Казаць сезонна, як буслы,
Але ў мяне свая прырода,
І годны я любві ў паслы.
Нясці на выстаўку эмоцый
Сваё каханне мне не след.
Ніколі не губляла моцы
Яно ад змены зім і лет.

*1972*

* * *

Не знаю, не помню,
чаго я сыходзіў
З таго цягніка,
што таемна цямнеў
На нейкім паўстанку
ды ў нейкай прыгодзе.
Магчыма, ўсё гэта прыснілася мне.
Пакуль зразумеў я,
што выйшаў заўчасна,
Што скоры стаіць тут мінуту ўсяго,
Застаўся адзін я з тугою няшчасця,
Мой поезд «ту-ту» —
і няма больш яго.
О ты, непазбыўнае страт адчуванне!
Ты можаш не толькі ў дарозе прыйсці,
Ты можаш з'явіцца ў хваробным тумане
Па рознай прычыне ў трывожным жыцці.
Я помню,
хавалася ў сэрцы надзея,
Што возьме ізноў мяне нейкі вагон,
Што зноў буду ведаць,
знаходжуся дзе я,
Што буду за шчасцем імчаць наўздагон.
А што, калі нават надзеі не будзе,
Застануцца толькі імкненні і боль,
Жыццё разляціцца ў паветравым гудзе,
Жыццё размінецца аднойчы з табой.
Пакуты і шчасце,
шляхі і стаянкі
Заслоніць без жалю мінулага дым.
Усё прамільгне на апошнім паўстанку.
Ну што за жыццё без хады і язды!

*1974*

## АБ ЦУДОЎНЫМ

*Ц. М. Годневу*

Над Нараччу рос дуб зялёны;
Ды не хадзіў пры дубе тым
Ні ўдзень ні ўночы кот вучоны
На ланцугу на залатым.
Русалка ў голлі не сядзела,
І не блукаў нідзе лясун,—
Прыйшла вясна, той дуб адзела
У невыказную красу.
І расхінае, як далоні,
Свой кожны дрыгатлівы ліст
Насустрач сонцу дуб зялёны,
Аж сам выцягваецца ўвесь.
Імчацца безлічы фатонаў
Ад дыска сонца наўздагон,
Няма прыпынку ім і стомы,
Яны — сам рух, яны — агонь.
Іх прамяністы след на лісці
Вядзе ў сярэдзіну і вось —
Ляжаць там зерняткі ў калысцы
Дый ізумрудныя наскрозь.
Перад жывой таемнай стромай
Фатоны супыняюць бег,
А карагоды электронаў
Захопліваюць іх сабе.
О, электроны! У мікрасвеце
Вам суджан Праметэя лёс —
Вандруючы ў зялёным вецці,
Вы бераце агонь з нябёс
І даяце ўсяму жывому,
Каб нарастала сіла ў ім.
Хай будзе кропля сілы ў слове
Аб зерні хларафілавым!

*1963*

## ПІСЬМО ПАЭТУ

*Якубу Коласу*

Ці помніш, паэт мой, цудоўныя вёсны?
Наша радзіма, як сад, была.
Авеяна раніцай сонечна-роснай,
Белаю яблыняй шчасця плыла.
Скажы:
хто не рад расці
Пад сонцам радзімы на зло вятрам?
Край наш пялёсткамі
творчай радасці
Асыпала вясна — шчасця сястра.
Дзе ж ты цяпер,
звонкага шчасця гоман?
Застольныя песні,
Любы дзіцячы смех,
Празрысты прастор на калгасных гонях,
Квітнеючай грэчкі пахучы снег?
Там зграя фашыстаў спраўляе ігрышча,
Гуляе са смерцю,
Агіднае «хальт»
Яшчэ парушае спакой пажарышчаў,
Яшчэ над народам не спынены гвалт.
Мне байка адна памятаецца змалку.
Бывае —
Выходзяць з магіл мерцвякі.
Трэба знаць моцнае слова-змагалку,
І нечысць загіне ізноў навякі.
Старую легенду нядоля ўзрасціла,
Ды бачны зарніцы і ў цёмную ноч,
Змагаецца з кожнай нячыстаю сілай
Слова паэта — вялікая моц.
І ты аддаеш тое слова народу,
Не трэба паэту лаўровы вянок,
Паэт атрымае сваю ўзнагароду

Разам з народам у дні перамог.
Шляхі перамог і крутыя і вузкія,
Але ж і народа той жах не крануў.
Збяры свае сілы,
Народ беларускі,
Ды нечысць навек загані у труну.
Святая нянавісць твая бязмерна,
Горы,
Здыміце снягоў чалму!
Па жытнім коласе,
поўным зерня,
Часам так сумую,—
і знаю чаму!
Пішы, будзь здароў.
Чалавечай
Шчырасцю сам я захоплены ўвесь.
Падпісаўся задумлівы вечар
Імем светлым маім
Алесь.

*1942*

## НА ПАМІРЫ

Зняць бы ўсе беды,
як торбу з плеч,
Ды пакласці на гэты скалісты камень...
Хай вятры-сухавеі іх выпетраць лепш,
Разнясуць па пустынях
ды засыплюць пяскамі.
Толькі нельга на плечы твае, Памір,
Узлажыць цяжыню чалавечай пакуты.
Па-над светам стаіш і нічый успамін
Не кране тваіх гор, у маўчанне закутых.

Нават вецер, які невядома адкуль
Наляціць цераз горы-дазоры,
Не замуціць вадзіцу
ў Іскандэр-Куль
Ці ў Кулі-Калонскіх азёрах.
Не, не можа Памір
мне нічога сказаць,
Яго скалы — нямыя здані.
Не тумань жа мне вочы, ліхая сляза,
Дай зірнуць з перавалу у далі.

Горна мне...
Непаўторны гадоў перавал
Пераходжу ў ліхім намаганні.
Ой, далёка радзімы маёй мурава,
Вораг топча яе нагамі!
Я цярпеннем байца загартую свой боль,
А для ворага гарт мой, як грозная навісь,
Бо мацней, чым скала,
да радзімы любоў
І вышэй гор Паміра
да фашызму нянавісць!
Я клянуся жыццю, маладым гадам
І таму, што ў жыцці непарушна і свята,

Што усе свае сілы і кроў аддам
Для знішчэння фашысцкіх заклятых катаў.
Гучна клятва мая між камення грыміць,
Дасягае вышынь, да якіх не ўзбяруся.
Ціішыня...
І здаецца, вазьмі ды гукні —
Будзе чутна на Беларусі.

О мая Беларусь!
Край салодкіх рос,
Сінявокіх ільноў,
Сакавітых вішань.
Ўся Савецкая,
Ад машын да лоз,
Ты была, і ты будзеш,
І не можаш быць іншай!

Зняць бы ўсе беды,
як торбу з плеч,
Заваліць бы ў пячоры
цяжарным камнем,—
Па шляхах Беларусі ісці бы лепш,
Растрывожыўшы душу
дарагім спатканнем.

*1942*

## ЛЁН

Лён ты мой зялёны, лен мой сінявокі,
Што панік пад ветрам светлай галавой?
Сінія пялёсткі сыплюцца навокал,
Частыя радочкі зараслі травой.
Кволыя лісточкі ды ў ляночка вянуць,
Сам ты невясёлы, мой лянок, расцеш!
Хіба за табою няма каму глянуць,
Няма каму думаць аб тваёй красе?
Што з табой такое, мой блакітны квеце?
Можа сухавейнік і цябе стаміў,
І табе абрыдла вандраваць па свеце,
Як і я, далёка ты ад родных ніў?
Можа ўспамінаеш пра лясы, дубровы,
На палетках іншых канюшынны шум...
Я таксама ў сэрцы, лён, не кучаравы,
Вобразы радзімы, нібы скарб, нашу.
Я таго не знаю, хто прынёс на поўдзень
Дарагую жменю даўгунцу ільну,
А цяпер часінкі для цябе не знойдзе —
Ўсюды столькі працы ў гэтую вайну.
Пылам вандравання далі пазамглёны.
Наталім дзе смагу роднаю расой?
Лён мой сінявокі, лён ты мой зялёны,
Што ж сінее смутак над тваёй красой?

*1943*

## АКРЫЛЕНЫ СОН

Я сёння бацькаўшчыну сніў,
Маю краіну-партызанку.
Сярод лугоў і родных ніў
Ішоў, як некалі, я ўранку.
Ляжала на траве раса,
Свяціла сонца ў кожнай кроплі,
І, як расінка, быў я сам
Празрыстай радасцю ахоплен.
Мне снілася, што я ізноў
Знайшоў юнацтва на айчыне,
Што прамяністаю вясной
Іду па ўзгорках і лагчынах,
Што быццам толькі захачу
Паскорыць рух мой нецярплівы,
Над Беларуссю я лячу
Палётам соладка імклівым.
І дарагая Беларусь
Дае ізноў мне шчасце-долю...
Расінкі жменямі бяру
І мыю твар жывой вадою.

Шчаслівы міг! Нібыта мне
Быў матчын дар у сне прынесен.
Насустрач сонцу і вясне
Душа імкнулася да песень.
У гэтых песнях палымнеў
Сярод змагання і трывогі
Агонь нянавісці і гнеў —
Вялікі рыцар перамогі.
Звіні ж, мой спеў, грымі, салют,
Ляці, маёй айчыны слава!
Краіну сёння сніў сваю...
Хай будзе сон мой яснай явай!

*1944*

* * *

Чаму я не сокал,
не вольная птушка,
Ляцеў бы далёка,
ляцеў бы туды,
Дзе светлыя рэкі
віюцца істужкай,
Дзе край мой, адзеты ў лясы і сады.
Мая Беларусь там,
краіна юнацтва,
Любімая маці вялікай сям'і,
Дзе шчасце маё,
хоць за ім і не ўгнацца,
Хадзіла са мною па роднай зямлі.
Пабачыць бы зноў залатое Палессе,
Імшыстую зелень лугоў і балот,
Сустрэць сваіх блізкіх,
Ісці б мне па лесе,
Як быццам нічога нідзе не было.
Але растрывожыць мне душу спатканне,
І гнеў
скамянее на сэрцы маім!
Жывых гарадоў параскрышаны камень
Заве на змаганне маўчаннем сваім.
Спаганілі ворагі нівы Айчыны,
Ліхая нядоля на плечы лягла,
Ад спаленых вёсак
плыла па лагчынах
Гаркавага дыму гнілая імгла.
Хай помста святая ўстае і карае,
З агнём перамогі на захад ідзе,
За злое вар'яцтва,
за гвалт па-над краем,
За здзекі і глум не дарує нідзе.
Табе, Беларусь,
і асілку народу,

Які не скарыўся няволі — хвала!
Так часам юнак у цяжкую нягоду
Адчуе дарослась
і мужнасць арла.

*1944*

# МІНСК

Пасля вайны прыйшоў я ў Мінск увосень,
Калі туман галіны дрэў лізаў
І падала з іголак хмурых сосен
Празрыстая і дробная сляза.
Быў ціхі ранак,
Мглівісты і росны,
Плылі дымы над горадам маім,
А перад горадам разгорніліся сосны.
Ці не яго так шкода стала ім?

О, памяць наша!
Ты — вялікі дар
Самой прыроды сыну — чалавеку.
Ты — творчай несмяротнасці ўладар,
Ты — другам генія была спрадвеку.
Ты дзіўным чынам можаш захаваць
Нам вобразы і з'явы дзён мінулых,
Каб не глынула іх жыццёвая дрыгва
І ў небыцці яны не патанулі!
Дык у змаганні за наступны дзень
Цераз агонь,
Калючы дрот і міны,
Як армія, што на прарыў ідзе,
Ідзі на бойку,
Войска успамінаў.

Ішлі гады.
Я ў Мінск прыйшоў ізноў
У ціхі ранак, сонечны і ясны.
Быў прыгажэй маіх юнацкіх сноў
Мой родны горад,
Блізкі і сучасны.
Прыйшла ў яго раней мяне вясна:
Яна прагнала халады і гора.

Зачаравана за сасной сасна
Ішлі са мной па тракту ў самы горад.

А можа, горад сам ішоў сюды,
Ды апынуўся паміж гэтых сосен.
Бываюць вёсны...
Нават гарады
Ідуць тады
У прасторавую просінь.
Яны ідуць у шырыню палёў,
Ідуць па берагах ля рэк вялізных.
І ты, мой Мінск,
Узняўся і пайшоў
Старымі трактамі
Насустрач камунізму.

Цудоўны Мінск!
У новыя часы
Хто б выглядам тваім не задзівіўся!
Народ ствараў цябе не толькі для красы.
Ты з попелу сталёвым нарадзіўся.

*1960*

## ФРАГМЕНТЫ «МІНУЛАЕ»

### І

Бывае, што я застаюся адзін,
Але не пануюць маўклівыя сцены.
Прыходзяць і нішчаць самоту гадзін
Мае успаміны і летуценні.
Прыходзяць яны невядома адкуль
І робяць, што хочуць, з прасторай і часам...
. . . . . . . . . . . . . . . . .

Жыў хлопчык вясковы, гуляў у пяску,
Бо ён не дарос яшчэ быць свінапасам.
Бяжыць праз дзіцячыя пальцы пясок,
Жывы, як вада, і сухі, як порах.
Пясочны пірог зачарсцвеў і засох,
А маці на працы і прыйдзе не скора.
Тут хлопцы падбеглі гуляць у ваяк,
У кожнага з іх па кавалку жалеза.
«Скажы нам, нягеглы, дзе маці твая?
Нам вельмі хочацца яе зарэзаць.
Ты знаеш, што бацькі ў цябе няма
І некаму больш бараніць тваю маці?..»
Нялёгка было зразумець, дзе мана,
Дзе праўда, малому яшчэ дзіцяці.
Малы аж заходзіцца з крыку і слёз:
«Зарэжце мяне, а яе не чапайце!»
Такое дзяцінства і будучы лёс
Бягуць, як пясок той праз нечыя пальцы.
Бягуць...
А тым часам і хлопчык падрос,
Яго падняла рэвалюцыі сіла,
З яго б атрымаўся нядрэнны матрос,
Ды толькі вясна ў песняры запрасіла.

II

Не хілі пад ветрам галаву
Залатою кветкаю, дзяўчына!
Бо і я па белых паплавах
Паплыву, сумуючы, вачыма.

Нарасталі і журба, і торф
Над балотам сівымі вякамі.
Я расстаўлю дум маіх прастор
Ці рассыплю з галавой на камень.

Пад пяянне снегавых завей
Я паеду ў горад срэбных далей.
Нехта незнаёмы там заве
Самых моцных і за ўсіх удалей.

Дык паслухай! Ну, навошта боль
І смуга над хмурымі палямі —
Я не раз спаткаюся з табой,
З шумнымі зялёнымі гаямі.

Я вярнуся зноў, мая краса!
Я прыеду... Дык чакай і помні.
У засені бярозавых прысад
Спыняцца пародзістыя коні.

Пастаяць хвіліну і... няма!
Толькі вецер, як сабака, ззаду.
Будзе, мажа, і тады зіма,—
Нежывы, непахкі росквіт саду.

На сяле, пры хаце, ля варот
Я спытаюся: «Алеся дома?»
Твой малодшы брацік — пальцы ў рот
І вачэй не зводзіць з агранома.

Ну, бывай! Апошні зірк лаўлю...
І хачу парадаваць, а... нечым!
Не хілі, дзяўчына, галаву,
Як нажом паранены сланечнік!

III

Усё мяняецца... праз год ці два
І я не той, і ты зусім не тая.
Ці не таму я сэрца раздаваў,
Каб лёд пачуццяў у цябе растаяў.

Табе я лепшае сваё аддам:
Душы паэта кветавую нежань.
Каханая! Ты прада мной, як здань,
І ў май пахучы, і ў пуховы снежань.

Усё мяняецца... і я, і ты.
Таму любоў быць можа вечна новай,
Бо ў садзе душ зялёныя лісты
Растуць заўсёды на старой аснове.

IV

Ах, восень-румза! Пасярод алей
Навошта блытаеш аголенае вецце?
Апалае лісцё ўжо не падыме вецер
І не пагоніць, не памчыць далей.

Апошнім пацалункам брудны глей
Пасадзіць пляму на прыгожым квеце,
І ўсё, што голае было на свеце,
Здаецца восенню яшчэ галей.

Мінулае! Хай восеньскай слязою
Цябе аплача адзінокі птах
Над рэчкаю пад рэдкаю лазою.

Імчацца дні на звонкіх капытах...
Я не магу адным і тым застацца.
Краса! Даруй... я зменны, як... мастацтва.

V

Прыгожы дзень адзеўся ў марлю хмар,
Упала ў мора сонцавае вока.
Прыходзіць вечар,
Ціхі і рахманы,
У задуменні чыстым і глыбокім.

Узняўся вецер, і мая ладдзя
Спяшаецца да сухазем'я нанач,
Дзе ёсць сябры, якія не глядзяць,
Што я здаюся для другіх паганым.

Паэт, паэт!
Самотны фантазёр,
Табе па-свойму ўсё навокал.
А мора гэтае — адно з азёр
Тваёй радзімы сінявокай.
Не так, не так
Гамоніць там чарот,
І бераг дальні не такое формы.
Там буры робяць толькі карагод,
Тут водзяць танец смерці штормы.
Хай вые вецер тысячай ваўкоў,
Хай хвалі кідаюць мяне ліхія,
Народжаны стыхіяю вякоў,
Я не загіну ад стыхіі.
Шалей жа, мора!
Хоць бы рух
Мне пагражаў надтрунным векам,
Калі патрэбна, я памру,
Як гэта варта чалавека.

Паэта не ахопіць страх.
Няхай жа песня любіць буру,
Бо песня — з бураю сястра
І можа многа зла разбурыць.
Сярдзіся, бура!
Злуйся, шторм!
Пад свіст вятроў і брэх сабачы
Ізноў я выйду на прастор
І сонца яснае убачу.

VI

Тут яблынька адна расла калісьці,
Адна дзяўчынка тут жыла тады.
На тонкай яблыньцы ў зялёным лісці
Раслі, я помню, першыя плады.
І мы ўдваіх, жартуючы, гадалі
У тыя дні шчаслівыя аб тым,
Які ж то смак у яблык будзе далей,
Калі нальюцца сокам залатым.
І помню я спатканні каля ганку,
Твой звонкі спеў аб дарагой Маскве...
Пачуць бы мне, як дзецям калыханку
Спяваеш ты, мой яблыневы квет.
Напэўна, многае было б інакшым,
Калі б цябе мой зацікавіў лёс.
Хто ведае?
Пры развітанні нашым
Было так мала слоў, а ні жальбы, ні слёз.
І па дарозе гэтай да вакзала
У цішыні рабінавых прысад
Ты мне тады нічога не сказала,
Хоць я прасіў цябе, мая краса!
Мне вобраз твой з'явіўся на руінах.
Спалілі немцы хату, і няма

Той нашай яблынькі салодка-віннай,
Якую даглядала ты сама.
І я не знаю, па якой дарозе
Ідзеш ты сёння жвавaю хадой.
    Стаяць бы разам на адным парозе,
    Ісці б упоруч па шляхах гадоў!

*1930—1946*

Набраць бы ў рукі спелага калосся,
ды кожны колас мілаваць і гладзіць...
Густое жыта навакол сплялося
і разгарнула крыллі радасць.

Зямля,
палітая крывавым потам,
не стогне болей у ярме няволі,
таму палі так зарунелі потым,
таму ўраджай такі
на кожным полі.

Ну як жа тут
ды не абняцца з новым!..
Зямную б кулю ўзваліць на плечы
машын нябачаных, машын сталёвых
і патануць у сонечнай далечы.

Таму і я выходжу на палетак,
бяру ў далоні і спрабую глебу...
Бо лепшы твор найлепшага паэта
не параўнаецца з кавалкам хлеба!

Таму, таму,
што дарагі бясконца
жывых грудзей рытмічныя удары,—
паэзію ж як гэтае от сонца
ніхто не адбярэ і не падарыць.

Пад сонцам —
залаты загар пшаніцы,
палёў калгасных буйнае бязмежжа,
бярозавых пасадак шэраг ніцы,
а на дарозе пескавая свежасць.

Чырвоныя абозы скора пойдуць
спакойным крокам у шумлівы горад
і будуць па дарозе гойдаць, гойдаць
галінамі бярозак ветры ў зорах.

*1934*

## МАЎЧЫЦЬ ГРАНІЦА

Кляновая моладзь,
Старыя асіны,
У лесе — сцежка
невядома адкуль.
На сцежцы
дзве пары слядоў ласіных,
І ў кожным утоптана па лістку.
Ад кляновага лісця
Ляглі бясконца
На зямлі і траве такія сляды,
Быццам ляцела крывавая конніца
Праз асеннія буры
і дым.

Гэта — ўздагон за вятрамі,
Разам з імклівым лосем,
Шамоцячы жоўклымі травамі,
Праходзіла восень.
І ўвосень,
Калі ж на кожным пні
Вісеў павуціны апошні шоўк,
ішоў
І нюхаў салодыч ласінай ступні
Стары пасівелы воўк.
Ціха...
Нехта лісцем апалым
Варушыць...
А можа — вецер?..
Раптам запахла металам,
Чаго воўк не любіў
больш за ўсё на свеце.
Секунда праходзіць звонка
І стыне ў трывожнай паўзе.
Чалавек стаяў перад воўкам,
Узняўшы суровы маўзер

На лінію вока.
Праходзіць мінута, праходзіць дзве,
Можа больш яны так стаялі,—
Воўк не бачыў яшчэ людзей,
Якія б цэліліся і не стралялі.
І, быццам хаўруснікаў двое,
Што справа адна заве,
Пайшлі нецярплівай хадою
На ўсход чалавек і звер,
Пайшлі злачынцы хмурыя,
І ў дыстанцыі крокаў сто
Былі так аднолькавы:
Сівая скура
І колеру хакі паліто.
Лес парадзеў.
Ідучы без дарог,
Чалавек у паліто
Стараўся ісці па-воўчы,
Але нецярпенне расло
І гусцела, як змрок,
Як сама цішыня,
Як шолахі ночы.
Хацелася ўпасці яму
і не кратацца з месца.
Ці не занадта далёка нянавісць яго завяла?
А можа — нічога...
Проста так —
пад месяцам
Расквітаў неспакой чорнаю кветкаю зла.

Адчула яго перш за ўсё аўчарка.
Вільнула хвастом,
галаву падняла ад лап.
— У чым справа?
Якая замежная марка
На караблях цемнаты
да нас прыплыла?
Што бурчыш так трывожна, Мілка,

Чатырохногі таварыш мой?
Мне шкада, што прырода зрабіла памылку
І стварыла цябе нямой.—
Вінтоўка армейская наперавес.
Збліжаліся хутка і проста.
Там, дзе канчаўся лес,
З'явілася постаць.
Шчоўкнуў затвор.
Рывок.
— Стой... рукі ўгору... ні з месца...—
Чалавек уцякаў па крывой
Паміж дрэвамі пералеска.
Спыніўся на міг за сасной.
Та! Та! —
Хоча маўзер бараніцца.
Два стрэлы з вінтоўкі —
І ціха зноў.
Маўчыць ноч,
Маўчыць граніца.

*1934*

## З НІЗКІ «КОЛА ДЗЁН»

### ІМКНЕННІ

*Памяці М. Багдановіча*

Кідае мора на бераг імклівыя пырскі,
шле пацалунак здрады
жоўтаму жвіру, каменню.
Сонца рассыпала ў пырсках
золата іскры,
хвалі прыбою прымчалі
пены марское імкненні.
Хвалі прыбою ракочуць...
Чаго яны хочуць?

Хвалі прыбою, як срэбра...
Ну, што ім трэба?
Вечныя ворагі вечную сварку
вядуць між сабою:
гэта — ўзбярэжныя скалы
і пенныя хвалі прыбою.

Толькі тады,
калі ў бойцы надыдзе знямога,
толькі тады,
калі ціха да новае буры
лашчацца хвалі лісліва
да берага сумна-нямога,
лашчацца хвалі прадажна
да скал цёмна-бурых.

Не!
Не ўзляцець і не ўзняцца
хваляў бурлівай навале —
вецер вандроўны
прыгнаў іх сюды выпадкова.

Песня паэта ў чужыне
па родным краі сумавала:
конь
новых дзён,
дзе ён
са звонам
сталёвай падковы?

Во ён,
чырвоны, памчыць
у старонку далёкую тую,
ды не прыйшлося паэту
садзіцца на спіну крутую.

Жоўтае мора
жывых каласоў
і васількоў у полі,
сінюю стромкасць
хваёвых лясоў
болей не ўбачыць ніколі.
Роднай краіны далёка агонь.
Песня замоўкла...
Што гэта?
У сэрцы далёкага краю свайго
Ты будзеш жывы, паэта!

Кідае мора на бераг
салёныя слёзы,
штормам прыгнанае
там багавінне ільсніцца;
дзесьці далёка пра мора
замарылі лозы,
жоўты ўзбярэжны пясок
і багавінне ім сніцца.

*1928*

## Ў МАІ

Распляла чаромха, як дзяўчына, косы,
Упляла у пасмы беленькі кутас.
Пакахаў чаромху вецер босы:
Вечарам, як хлопец, віўся ля куста.

І спяваў ён песню, што у лузе смолкі
Чырванню зялёнай выслалі дыван,
Што хадзілі ў поле камсамолкі
Прывітанні святу Мая аддаваць.

Разбудзілі поле песняй маладосці...
Не стрымаўся вецер — сам ім памагаў,
А калі ўжо песень стала досыць,
Ціха да каханай крылламі махаў.

Вечар пеў чаромсе: «Дарагія госці
Веснавыя кветкі завілі ў вянок...»
А чаромха сумная чагосьці
Белыя пялёсткі сыпала да ног.

*1928*

## ПЕСНЯ ПРА ГАЗЕТУ

Я кожны раз,
калі мне ў вочы проста
заглядвае газеты ясны шрыфт,
успамінаю,
як на плоце «РОСТА»
да помсты звала за стагоддзі крыўд.

І шэраг літар
на паперы шэрай
гарэў нібыта чырванню крыві,
і дух будзіў,
і зваў яго наперад,
каб знішчыць тых,
хто век душой крывіў.

І вось з тых дзён
па водгуках у друку
прывык я сэрцам чула адчуваць,
ці цвёрда йдзём мы
па жыццёвым бруку,
ці пачалі кульгаць.

Як сённяшнія дні,
шрыфты са звонам сталі
мне праўдай-песняю цяпер звіняць,
што маладыя мы,
і сталыя больш сталі,
і можам вышай молат свой узняць.

Прайшлі ў нябыт гады,
калі мы смаглі.
Цячэ гісторыі напружаная плынь.
Таго, што будзе, не асветліць магній,
Курок узведзен,

можа скажуць:
плі!

Бяжыць жыццё,
бяжыць няроўным тэмпам,
як бы аўто на гору і з гары.
Надыдзе час...
І тых,
хто ставіць к сценкам,
саміх паставяць рана на зары.

І будзе бура...
Будзе не нявесткай
Віхурнага жыццёвага клубка.
— Там рэвалюцыя! —
Мы атрымаем звесткі
праменнем
сонечным
з газетнага слупка.

*1929*

## РАНІЦА

У акно глядзіцца з сонцам раніца,
За акном спявае песню шпак.
Дык чаго ж, аб чым я буду жаліцца,
Калі можна добра жыць і так!

Зноў вясна сваёй пяшчотнай ласкаю
Будзіць думку і заве удаль,
Зноў квітнее ў сэрцы пышнай краскаю
Жыццярадасць.

Б'ецца, як вада,
Што на бераг узбягае хвалямі,
Майго сэрца маладая кроў.
Я хацеў бы сёння зліцца з далямі
Ці пабыць усходняю зарой.

Я хацеў бы сёння самалётам
Разануць пісугай неба сінь,
Песню пець аб нашых дзён узлёце
І вясне, і сонцу, і усім.

Я б хацеў насустрач шэрым гусям,
Што ляцяць з нязведаных краін,
Над палямі вольнай Беларусі
Запытацца гучна аб адным:

Гусі! Гусі! Дзе вы ні ляталі!
Гусі! Гусі! Дзе вы ні былі!
Начавалі ўчора мо ў Італіі,
А заўчора ў Афрыцы плылі?

Дык скажыце: ці усход і поўдзень
Шчэ не поўныя раннёвых мар?
Шчэ не думаюць, што спаць ім годзе,
Чорны негр і лоўкі ў бойцы маўр?

І адкажуць гоманам вясеннім
Гусі мне з блакітнай вышыні,
Што і там не стануць на калені
Чалавецтва вольныя сыны.

*1927*

## ДВАНАЦЦАТАЯ АТАКА

*Прысвячаю XII з'езду КП(б)Б*

Учора чорнага
далёкі бераг
яшчэ імгліцца ў акіяне дзён.
Але наперадзе
такі
прастор відзён!
О, хараство электравокай эры!
Твой вобраз свеціцца
ў адчыненыя дзверы
стагоддзяў будучых.
Да іх і мы ідзём.

Лютуе люты.
Сёння па злабе
на плечы сыпле мяккі снег...
Дарма! Дарма!
І шырай, і глыбей
індустрыяльны шлях вясне.
Кіруе ўсім магутная рука,
як пралетар
ля варштака.
Усюды, ўсюды,
дзе растуць заводы,
дзе музыку заводзіць
рух дынамы,—
я пазнаю вас,
радасныя годы,
і называю сонечнымі днямі;
а ў лепшых мулярах,
выдатных інжынерах,
ва ўсіх рабочых,
моцных і свядомых,
меліяратарах, вучоных аграномах,

калгасніках, што рушацца наперад,
ва ўсіх сялянах,
што вядуць упарта
будзённае змаганне за ўраджай,—
цябе вітаю,
ленінская варта,
і сам сабе камандую:
зважай!

Ідуць спакойна,
а не скончан бой...
Дурное сэрца,
ты не тахкай!
Труба іграе поўны збор
перад дванаццатай атакай.

Вітанне вам,
жывым у барацьбе,
і слава вам,
хто заваюе Заўтра,
хто нашых дзён уздыблены разбег
паставіць рэвалюцыі на варту.
Я не люблю старую Беларусь
(Мне так не хочацца любіць старую).
Ці не таму,
калі гудкі равуць,
я ім і сам адчаянна ўтурую.

Канец...
канец прыйшоў драўляным сохам.
Жахліва вербы хіляцца над ровам...
Краіну, хворую балотамі і мохам,
жалезам вылячаць...
О, будзь здарова!

І ўсё наземнае і ўсё зямное
народзіць мнагафарбнасць новых
форм;

вітаю ўсё, што ў будучым за мною
наведае жыцця фанфарны форум...
О, хараство электравокай эры!
Цябе нічым не выказаць, не змерыць.

*1929*

## ДЫНАМА

Ёсць многа такога
на нашай зямлі,
чаго і стагоддзі
з яе не змялі,
і моцна зліваецца
сённяшні дзень
з мінулым жывых
і памёршых людзей.
Нямала, напэўна,
пакінем і мы
пра нашу эпоху
сведак нямых,
каб доўга
відзён быў
дзён нашых маяк —
дынама мая,
дынама мая.

Я ведаю добра,
што нават тады,
калі залатыя
надыдуць гады,
якія агорнуць
бліскучым крылом
і нас
і сучаснасці буралом,
аддасць прывітанне
далёкім дням
заўсёды юнацкае
сэрца дынам

ад нас,
што любілі тваё імя,
дынама мая,
дынама мая!

О, бурнае сэрца
машынных сістэм!
Вітаю высокі,
напружаны тэмп...
Нішто не супыніць
разбежысты рух.
Дынама —
мой лепшы і моцны друг,
калі застаюся
адзін з табой,
убок адыходзяць
туга і боль,
нібыта іх толькі
выдумаў я,
дынама мая,
дынама мая.

Пад шолах алешын
і белых бяроз,
краіна,
дзе я нарадзіўся і рос,
ад веку гібела
ў балотнай імгле,
аж месяц на нєбе
стагнаў і млеў.

Але ж і балотам
прыйшоў канец!
Прыйшлі эскадроны
сталёвых каней,
прыйшлі эскадроны
ліхіх ваяк,
а з імі дынама,
дынама мая.

Прыйшлі і рассыпалі
тысячы воль,
а кожная воля

ў мільёны вольт.
Які ж гэта вораг
не будзе біт?
Шукае планета
другіх арбіт,
бо ўжо чалавека
не схіляць ніц
маланкі суровых
яе навальніц,
і хутка ўжо будзе
маланка-змяя
такой жа ручной,
як дынама мая.

Павіснуць на месцы
туманных плям
празрыстыя яблыкі
электралямп,
і трактар
ля самай апошняй мяжы
з надрывам пакліча:
— Барджэй памажы!
І выйдзе на змену
электраплуг,
магчыма, з ім выйду
і я на луг
і ўспомню як сёння,
тваё імя,
дынама мая,
дынама мая.

*1930*

* * *

Я сягоння на вольных палёх
Новай вёскі пясняр і веснік;
Сівым зайцам туман прылёг
Ад ніколі нячутай песні.

Я прыроды-красуні сон
Разганяю ў ружовых прасторах,
Маё сэрца пяе ва унісон
З галасістаю песняй матора.

Але помню: калісьці ў лапцёх,
Палюбіў я вясеннія ўсплёскі,
Хоць не знаў, што яны хлапцоў
Зноў паклічуць да роднае вёскі.

Я не знаў, што лясных тканін
Будуць стужкі ў іпакшы колер,—
Мо затым на сталёвым кані
Я хацеў ускапыціць поле?

Не шкада, што згубілі спакой
У прысадах бярозы тракта...
О, мой конь, мой сталёвы конь,
Любы дружа, асілак-трактар!

Ці ж не мне, маладому, ты
Пра вялікае шчасце гаворыш,
Адкрываючы для беднаты
Неабсяжную даль прастораў?

Пра цябе льецца песня ракой —
Няхай думкі з настроямі ладзяць,
Бо халодную сталь рукой,
Як любімую, хочацца гладзіць.

І яшчэ аднаго хачу...
Калі вецер заводзіць танцы,
Я жадаю усюды чуць
Трапятанне электрастанцый.

Асвятляюцца цемры куткі...
І я знаю, што гэтак будзе,
Што і вёску, як горад, гудкі
Раніцою ўставаць узбудзяць.

А туман пад мяжою прылёг,
А ў паглядзе радасць весніц...
Я сягоння на вольных палёх
Новай вёсцы спяваю песні.

*1926*

## НЕДАПІСАНЫ ЛІСТ

Як многа дзён,
праведзеных у сне,
загіне ў жорсткую
жыцця і думак замець...
Але змаганню, працы і вясне
заўсёды месца захавае памяць!

Таварышы!
Я атрымаў ваш ліст.
Паўсталі прада мной
шляхоў і часу далі —
і ў грудзі мне капэляю ўвайшлі
і думамі маімі заўладалі.

Я помню добра малады разгон
на берагах ракітавых Арэсы
і ведаю,—
ў завілінах мазгоў
тых дзён не зачарніць і не закрэсліць.

Дык як жа так?
Лявон, няўжо само
у галаву прыйшло такое глупства,
што ты, батрак,
пакінуў камсамол,
паміж завулкаў на рагу стаў?

У нас не ўсё на вёсцы — дабрыня,
таму і чуткі поўзаюць,
як змеі...
Але, каб ты тугою набрыняў,
мой дарагі,
ніяк не разумею.

Ты не кажы:
«Было з табою лепш...»

Даўно пара вам на мяне забыцца!
А то і ў тым,
што падарожаў хлеб,
па-твойму выйдзе, я павінен быццам.

Адну віну я толькі прызнаю...
Лягла задумай на смуглявым твары.
Дык што ж!
Істоту вам аддам маю,
як лепшы друг ваш
і стары таварыш.

Пакінуў я
трыкутнікі ялін,
сказаў «бывай!»
круглявасці бярозак;
вядома ўсім, што кулакоў цвяліць
такая нэндза і такая проза.

Пайшоў туды,
дзе гоман гарадоў...
Яны заўсёды, друг, людзей умесцяць.
Цяпер — студэнт.
Жыццяя майго «рандо»
на дзевятнаццаць рублікаў у месяц.

Цяпер мне, дружа,
роўна дваццаць тры.
З тае пары і я павышаў ростам.
Цяпер не кружыцца
і ў заціш, і ў вятры,
не сцеле вочы мне,
як здрада, злаяростань.

Разгорне нехта
камсамольскі спіс,
і «пераростак» стане поруч з імем.
Няхай! Няхай!

Калі мой дух не спіць,
я буду з партыяй назло суровым зімам.

Краіна наша ўся ідзе к вясне,
галоп змяніўшы на трываласць рысі;
і кожны дзень становяцца ясней
другіх людзей і будучыні рысы.

Ужо і так, таварышы, няўсцерп
старой зямлі балоцістая вохкасць.
Вазьму з сабою малаток і серп,
каб больш ніколі
не тужыць,
не вохкаць.

Прыйду да вас у блізкія гады...
І прыйдуць многія шырокім крокам
пабудаваць такія гарады,
якіх не бачыла жывое вока.

Але ж мінорам думак не расцяць.
Чакайце, любыя!
Прышлю другія весці.
Я абарваў...
Ліста майго працяг
само жыццё іначай піша дзесьці.

*1928*

## ЗМЕСТ

**Вечар А.**

9 Зварот да слова. Вершы. Мн., «Маст. літ.», 1977.

80 с.

Яшчэ ў 30-я гады Алесь Вечар выступіў з першымі вершамі. Цяпер ён — вядомы вучоны, акадэмік АН БССР. Але паэзія па-ранейшаму жыве ў яго сэрцы, жыве патрэба звярнуцца да слова, да вершаў, а з імі — да чытача з роздумам пра жыццё, пра нашых сучаснікаў.

В $\frac{70403-116}{М 302(05)-77}$ 41—77 Бел 2

Александр Степанович Вечер

ОБРАЩЕНИЕ К СЛОВУ

На белорусском языке

Рэдактар І. І. Калеснік. Мастак В. Л. Лазоўская. Мастацкі рэдактар М. Р. Казлоў. Тэхнічны рэдактар З. Г. Сень. Карэктар В. М. Хлебавец.

IB № 195

АТ 21029. Здадзена ў набор 26/XI 1976 г. Падп. да друку 28/IV 1977 г. Тыраж 3000 экз. Фармат 75×90$^{1}/_{32}$. Папера глыб. друк. Ум. друк. арк. 3,12. Ул.-выд. арк. 3,23. Зак. 3764. Цана 38 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Свярдлова, 4.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.